**ДНІ НАРАДЖЭННЯ**

*22 лютага*

80 год з дня нараджэння **А. Коршака** (1920–1945), беларускага паэта.

*24 лютага*

65 год з дня нараджэння (1935) **Р. Барадуліна**, беларускага паэта.

**АНТЫГРЫП**

# Бегаць, добра харчавацца, гуляць з катамі і сабакамі – «антыгрыпозны» рэцэпт урача

МАЛАДЗЕЧНА. **Наталля Нічыпаровіч** – ўрач інфекцыйнай бальніцы. Яе ведаюць не толькі як добрага фтызіятра, але і як асобу каларытную, часам непрадказальную.

Прыкладам, замест доўгай змястоўнай лекцыі на тэму "Якія медпрэпараты абароняць арганізм ад грыпу" яна прапануе рэцэпт, якога сама прытрымліваецца 12 год.

Праз дзень з 19 да 21 гадзіны ўрач займаецца фізкультурай – бегае. Калі 6 кіламетраў, калі 14. Акрамя таго, Наталля – "кулінар–выдатнік" (шкада, што не існуе афіцыйна такога звання). Гасцей, сяброў любіць пачаставаць, ды і сама не супраць пакаштаваць уласнае гатаванне. Прычым вагу мае заўсёды аднолькавую, ±2 кілаграмы.

– Літаральна на першым курсе медінстытута ўзніклі праблемы са здароўем, – расказвае Наталля, – дыпламаваныя ўрачы ад маіх скаргаў адмахваліся. Маўляў, знікні і галаву не дуры. Тады я і пачала бегаць. Па першым разе дыстанцыю ў 100 метраў ледзь пераадолела. А месяцы праз тры зніклі ўсе мае балячкі. Грыпам не хварэла ўжо год з 8.

**– Як звычайна рэагуюць гараджане на маладую абаяльную бягунню?**

– Раней падлеткі абавязкова ў спіну нешта "салёнае" гаварылі. Памятаю, была на практыцы ў Бараўлянах. Бягу ўвечары па шашы ўздоўж лесу. Параўнялася з маладым чалавекам, праз імгненне чую – бяжыць за мной. Хаця тэмп не павялічвала, праз хвіліну адстаў. А раніцой міліцыі ў пасёлак панаехала, вайскоўцаў: збег злачынца – фотакартку таго незнаёмца паказваюць.

**– Няўжо лекамі не карыстаецеся?**

– Зрэдку. Не аднойчы было, што тэмпературу бегам здымала. Як гавораць, "клін клінам выбівала".

**– Мне, як чалавеку немаленькаму і крыху ляніваму, больш даспадобы другая частка вашага рэцэпта: не абмяжоўвайце сябе ў харчаванні. Можа, выкарыстоўваць толькі яе для супраціўлення інфекцыі?**

– Вось днямі выпякала торт "Алімпійскі мішка". У яго склад уваходзіць лімон – магу перапісаць рэцэпт. Калі ўзнімецца тэмпература, выпякайце і з'ядайце яго хутчэй. А потым мне скажаце, ці дапамагло.

**– І тым не менш, калі сур'ёзна: няма жадання ні бегаць, ні часнок есці, а на вітаміны грошай не хапае, што яшчэ можа спалохаць грып?**

У нас у кватэры на правах гаспадара жыве кот Рыжык. Для мяне ён – быццам шчаслівы сувенір. А вось для маёй маці – "антыгрыпін". Працуе яна настаўніцай у школе. Бывае, знерваваная прыйдзе дамоў, Рыжыка пагладзіць, і стомленасць знікае. Бо і невялікія нервовыя стрэсы робяць арганізм падатлівым да інфекцыі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Кот на руках – прафілактыка супраць грыпу.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

**ПЕРАПРАЦОЎКА**

## Перапрацоўчым прадпрыемствам не хапае сыравіны

СМАРГОНЬ. Складанае становішча склалася на прадпрыемствах, што займаюцца перапрацоўкай сельгаспрадукцыі. Завод сухога абястлушчанага малака знізіў аб'ёмы выпуску на 20,7 працэнта і недадаў прадукцыі за год на суму 154,5 мільярда рублёў: не хапае малака.

З–за нізкіх збораў збожжа завод недадаў прадукцыі на 175,5 мільярда рублёў, выпуск камбікармоў зменшыўся на 15222 тоны, а аўсяных круп – на 3012 тон у параўнанні з 1998 годам.

*Павел МАКЛЮК.*

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА**

## Запазычанасць па зарплаце яшчэ з лістапада

68 сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Гродзеншчыны маюць запазычанасць па зарплаце яшчэ за лістапад 1999 года. На пачатак лютага 2000 года сума гэтай запазычанасці складала 107 мільярдаў "старых" рублёў. Агульная ж сума запазычанасці па зарплаце ў Гродзенскай вобласці на пачатак лютага перавышала 744 мільярды "старых" рублёў; з іх дзве трэці прыпадае на прадпрыемствы аграпрамысловага комплексу.

Праверкі, праведзеныя ў студзені работнікамі Камітэта дзяржаўнага кантролю Гродзенскай вобласці ў шэрагу гаспадарак Ашмянскага і Смаргонскага раёнаў, пацвердзілі, што запазычанасць па зарплаце ўтварылася з-за недахопу ўласных грашовых рэсурсаў на яе выплату. Гэта, у сваю чаргу, звязана з нізкім узроўнем вытворчасці прадукцыі.

Напрыклад, у калгасе імя Ільіча Ашмянскага раёна запазычанасць па зарплаце і дзіцячых дапамогах склала 4,376 мільярда "старых" рублёў, у тым ліку за лістапад - 1,601 мільярда рублёў. Пры гэтым за тры месяцы зімоўкі буйной рагатай жывёлы аб'ём валавой вытворчасці малака ў гаспадарцы знізіўся на 27% у адносінах да аналагічнага перыяду 1998 года, а прыбаўленне ў вазе жывёлы – на 37%.

*Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.*

**АЦЯПЛЯЛЬНЫ СЕЗОН**

## Новая кацельня

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні запрацаваў першы кацёл новай кацельні на газавым паліве ліцейна–механічнага завода. Цяпло прыйшло ў новы цэх, дзе вырабляюцца поршневыя кольцы для аўтамабіляў. На іх, дарэчы, нядаўна паступіў буйны заказ з Мінскага маторнага завода – тысяча штук на першы раз. Летась кольцаў з шэрага чыгуну было выраблена 500 тысяч, гэта быў толькі пачатак. З–за недахопу чыгуну сёлета завод прастойваў, аднак сыравіна паступіла ўжо на завод. Мяркуецца, што ўжо ў сакавіку будзе выраблена 150 тысяч штук кольцаў.

*Павел МАКЛЮК.*

**КУЛЬТУРА**

## Канферэнцыя памяці Генадзя Каханоўскага

МАЛАДЗЕЧНА. 10 лютага ў гарадской бібліятэцы імя Максіма Багдановіча прайшла навуковая канферэнцыя, прысвечаная памяці маладзечанца, доктара гістарычных навук, пісьменніка Генадзя Каханоўскага.

Са словам пра паплечніка і сябра выступілі госці з Мінска – навукоўцы **Міхась Чарняўскі**, **Янка Саламевіч**, пісьменнік **Генадзь Шупенька**, краязнаўца са Слуцка **Вячаслаў Міхасёнак**, краязнаўца са Слоніма **Сяргей Чыгрын**. Былі выступленні і ўспаміны пра Генадзя Каханоўскага і земляков.

Археолаг Міхась Чарняўскі, расказваючы пра сваё знаёмства з Каханоўскім і далейшую сумесную работу, казаў:

– Тады за адраджэнне не было ні падзякі, ні грантаў. Не дапамагалі ніякія фонды Сораса. Складаліся спісы тых, хто гаварыў па-беларуску. Дазвалялася гаварыць па-беларуску звычайнаму вясковаму дзядзьку, на дыялекце, ды пісьменніку. Ды і тое, не на партыйным сходзе. Але не інтэлігенту. Такім беларусам, як Генадзь Каханоўскі, не давалі ходу...

Генадзь Каханоўскі пражыў 58 год. Зрабіў вельмі многа. Яшчэ больш не зрабіў. Справу яго працягвае сын, гісторык Аляксандр Каханоўскі.

*Мікола ГАЙДУК.*

## «Сібірскі цырульнік» на Нарачы

МЯДЗЕЛ. Нарэшце адкрыўся кінасезон у нядаўна адрамантаваным гарадскім Доме культуры. Зроблена гэта было прэм'ерай фільма Мікіты Міхалкова "Сібірскі цырульнік".

Ахвотнікаў паглядзець фільм аказалася шмат, давялося нават рабіць трэці, дадатковы, сеанс. Усяго па раёне на "Цырульніка" прыйшло больш за 1,5 тысячы гледачоў.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

**ВЫСТАЎКІ**

# На скарбы музея можна паглядзець



*Намеснік дырэктара музея Таіса Лянкевіч.*

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

– Апошняя выстаўка, – паведаміла намеснік дырэктара музея па навуковай рабоце **Таіса Лянкевіч**, – прымеркаваная да 40–годдзя музея, хаця сам юбілей адзначаўся летась улетку. Вынесці на прагляд наведвальнікаў сабраныя на ёй экспанаты раней не дазвалялі ўмовы паказу і захоўвання. Сёлета, нарэшце, адпаведная зала была падрыхтаваная. Пастараліся МП "Падрад", якое ўзначальвае **Аляксандр Смаленскі**, мастак–дызайнер **Галіна Сушко**. І, натуральна, музейныя работнікі – галоўны захавальнік фондаў **Наталля Палтавец**, загадчыкі аддзелаў **Лілія Нагайцава**, **Лідзія Курыловіч**, **Сяргей Старыкевіч**, старшыя навуковыя супрацоўнікі **Алена Гаськова** і **Сяргей Марозаў**. Апошні якраз і адказвае за выставачную работу музея. Летась, напрыклад, у Маладзечне і розных рэгіёнах Міншчыны было арганізавана больш за трыццаць выставак – рэкордная колькасць.

Максімальна выкарыстоўваць фондавыя калекцыі, прапагандаваць багатую гістарычную спадчыну Міншчыны музею не дазваляе банальная акалічнасць – недахоп плошчаў. Як пад экспазіцыю, так і пад сховішчы. Супрацоўнікі музея сумна жартуюць, што статус музейнай рэліквіі можна надаваць драўлянаму будынку на вуліцы Лібава–Роменскай, дзе месціцца экспазіцыя. Каля дзесяці год доўжыцца рэканструкцыя будынка музея, што ў завулку Партызанскім. Праўда, вобласць абяцае ў наступным годзе прафінансаваць заканчэнне будаўнічых работ. Тады ў новым будынку і пачнецца стварэнне новай экспазіцыі. А выстаўляць Мінскаму абласному музею ў Маладзечне, паверце, ёсць што: у фондах музея цяпер захоўваецца больш за 41 тысячу прадметаў.

*Віталь ПАШУК.*



*Скарб манет часоў Рэчы Паспалітай.*



*Адзін з кніжных рарытэтаў, што захаваліся з XVII-XVIII стагоддзяў.*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.

*БУДОЎЛЯ*

# Інваліды чакаюць, калі краіна стане багацейшая

*МАЛАДЗЕЧНА. Чатыры гады капітальна рамантуецца дом–інтэрнат для састарэлых і інвалідаў. Незадаволеныя яго жыхары нават даслалі ліст у рэдакцыю.*



*Няпростае жыццё пражыта; складана і ў старасці ў доме–інтэрнаце.*
ФОТА IREX/PROMEDIA

39 год таму дом–інтэрнат прыняў сваіх першых пастаяльцаў. Гэты будынак ад самага пачатку не адпавядаў іхнім патрэбнасцям, бо будаваўся як інтэрнат для работнікаў таварыства сляпых. Неабавязкова, так бы мовіць, з адхіленнямі ў рабоце апорна–рухальнага апарата.

І толькі 4 гады таму яго пачалі даводзіць да нормы. Капрамонт невыпадкова супаў з прыходам новага дырэктара **Таццяны Уладыкі.**

– Тады гаворка ішла нават пра закрыццё харчаблока, – гаворыць яна, – над кухняй знаходзіліся туалеты.

Пакуль Мінсксельбудпраект распрацоўваў праектна–каштарысную дакументацыю, “шэфы” ужо лапілі “дзіркі”. ЗЛМК, да прыкладу, бясплатна адбудаваў гараж, вакол вокнаў абклаў, дзе трэба, цэглай.

– Аблвыканком замацаваў за намі акцыянернае таварыства “Забудова”, – гаворыць дырэктар дома–інтэрната, – аднак гэтага недастаткова. – Хадзіла ў гарвыканком. Я добра разумею, што мясцовая ўлада не добры дзядзечка, які з шапкі “шэфаў” дастае. Тым не менш, і ўлады дапамаглі – я выйшла на добрых людзей на заводзе лёгкіх металаканструкцый, “Маладзечнамэблі”.

Да прыкладу, дом–інтэрнат закупіў на Магілёўліфтмашы бальнічны ліфт. Частку грошай (640 мільёнаў недэнамінаваных рублёў) выдаткаваў завод ЛМК. Летам пачнецца мантаж ліфта – нямоглым людзям будзе прасцей спускацца з другога паверха на першы: у клуб, сталоўку, да ўрача.

У доме–інтэрнаце жыве 155 чалавек. Некаторыя ледзь перасоўваюцца, а іншыя наогул не ўстаюць з ложка.

Апошнім часам капрамонт ідзе марудна. Упраўленне сацыяльнай абароны насельніцтва аблвыканкома не мае для гэтага дастаткова сродкаў. Пра незакончаны рамонт ведае і міністр сацабароны **Вольга Даргель**.

У лісце ў рэдакцыю жыхары інтэрната, у прыватнасці, пішуць: “Вакол дома ямы... Усё робіцца для паказухі...”.

А вось сталоўка і клуб цягнуць ужо на еўрапейскі ўзровень.

– Мы выканалі асноўную частку работы, – гаворыць дырэктар, – адразу перазаклалі электрасеткі. Перанеслі электрашчытавую (была пад мыйкай). Перарабілі ўсе санвузлы, адрамантавалі харчаблок, пашырылі сталоўку. Прывялі ў парадак пакоі ляжачых. Пералічваць можна бясконца. А засталося нам “разабрацца” з калідорамі і некаторымі пакоямі.

Дарэчы, па ініцыятыве адміністрацыі ў доме–інтэрнаце за кошт перапланіроўкі зрабілі новыя пакоі: для адпачынку санітараў, раздатачны, мыйку для гаршкоў. Па праекце прадугледжана разбіўка новых вуліц на тэрыторыі.

– Працаваць цяжка, – гаворыць Таццяна Уладыка, – два калектывы – жыхары і работнікі, у кожнага свае праблемы, свае патрабаванні. Калі ў звычайнай кватэры рамонт, яе жыхары нервуюцца: “Хутчэй бы усё скончыць”. Кватэра ж для нашай сям‘і велізарнейшая.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*ЭКАНОМІКА*

# Год цяжкіх выклікаў

*Змяшчаем статыстычныя дадзеныя — працяг матэрыялу Я. Раманчука з мінулага нумара («РГ» №6) — паказчыкі інфляцыі, сярэдняй заработнай платы, вытворчасці валавога ўнутранага прадукту і інвестыцый на душу насельніцтва.*

## Сярэднемесячная зарплата ў Usd (на 01.01.2000)

Беларусь – адзінка (35 Usd на чалавека)




## Аб‘ём прамых замежных інвестыцый на душу насельніцтва

Беларусь – адзінка (45 Usd на чалавека)




## Валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва (на 01.01.2000)

Беларусь – адзінка (1300 Usd на человека)
(на аснове статдадзеных ЕБРР і EIU)




Як відаць з табліцы, па аб‘ёме вытворчасці мы знаходзімся на ўзроўні дзвюх іншых еўрапейскіх краін, што пачынаюцца на літару “Б” – Балгарыі і Босніі. Краіны ЦВЕ, якія зрабілі цывілізаваны выбар, пакінулі нас далёка пасля сябе. Ды і балгары яшчэ ў 1997 годзе рашыліся на кардынальныя змены. У адрозненне ад нас, самае балючае ў іх ужо адзаду.

## Інфляцыя за 1999 г.

Беларусь – адзінка (300%)




*БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ*

## Курсы валют НБ РБ

| | 10 лютага | 17 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 378,00 руб. | 395,00 руб. |
| Марка Герм. | 191,98 руб. | 198,08 руб. |
| Літ | 94,52 руб. | 98,74 руб. |
| Рас. руб. | 13,18 руб. | 13,75 руб. |
| Злоты | 91,41 руб. | 95,53 руб. |
| ЕЎРА | 375,49 руб. | 387,42 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

Долар ................ 870 – 890 руб. ................ 870 – 890 руб.

### МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) | |
|---|---|---|---|
| | | 09.02 | 16.02 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3700 | 3600 |
| Сасіскі | 1 кг | 1166 | 1166 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 680 | 660 |
| Рыс | 1 кг | 400 | 400 |
| Грэчка | 1 кг | 560 | 600 |
| Цукар | 1 кг | 255 | 255 |
| Алей | 1 л | 650 | 640 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 405 | 405 |
| Маянэз | 250 г | 160 | 150 |
| Кава “Пеле” | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 320 | 300 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 210 | 200 |
| Лімоны | 1 кг | 920 | 960 |
| Апельсіны | 1 кг | 650 | 625 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 200 | 200 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 500 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 600 | 600 |
| Малако | 1,5 л | 200 | 200 |
| Бульба | вял.вядро | 800 | 700 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 550 | 470 |
| Яблыкі | 1 кг | 400 | 400 |
| Капуста | 1 кг | 130 | 130 |
| Морква | 1 кг | 300 | 280 |

*АГАРОДНІНА*

# З амерыканскай пшаніцы

1 лютага для суб‘ектаў гаспадарання краіны, разам з увядзеннем з пачатку года падатку на дабаўленую вартасць, дэнамінацыяй, абмежаваннем на вось велікагрузных аўтамабіляў, дадалі яшчэ адзін «падарунак» – новыя правілы кантролю за знешнегандлёвымі аперацыямі.

Цяпер гандлёвыя адносіны з Расійскай Федэрацыяй належаць афармленню ў мытных органах па спецыяльнай працэдуры, якая практычна нічым не адрозніваецца ад працэдуры мытнага афармлення з іншымі дзяржавамі (за выключэннем мытных плацяжоў).

Але пры гэтым, за кошт афармлення патрэбных дакументаў, кожная пастаўка падаражэла на 24 тысячы дэнамінаваных рублёў. Цяпер камплект дакументаў, які накіроўваецца з грузам у Расію, каштуе для экспарцёра да 60 тысяч рублёў. Аптымізм захоўваюць нямногія.

Вілейскае рознічна–аптовае плодаагародніннае прадпрыемства, аснову дзейнасці якога складаюць экспарт бульбы ў Расію, перажыло пачатак года ў стане, блізкім да шоку. Але з усяго ёсць, па крайняй меры, два выйсці. Тлумачэнні аб заліку ПДВ па таварах і паслугах, якія пастаўляюцца з Расіі, дазваляюць спадзявацца, што, па–ранейшым, бульба захавае сваю канкурэнтаздольнасць на рынках РФ. А замест яе мы атрымаем цукар, муку, алей, свежамарожаную рыбу, кармы і г. д.

Аднымі з першых у раёне, намі праведзенае мытнае статыстычнае афармленне і рэгістрацыя кантракта па пастаўцы кармоў з ААТ “Невская мельница”, дзе кармы выпрацоўваюцца па навейшай тэхналогіі.

Колькасць фізіялагічна актыўных рэчываў, якія ўтрымліваюць вугляводы, фосфар, вітаміны В і РР, больш, чым у збожжы. Істотнае пытанне – кошт. Нават без калькулятара можна зрабіць нескладаны разлік. Пажыўная вартасць бульбы – 0,3 карм. адз., а кармоў – 0,7–1,0, гэта значыць, для атрымання аналагічнага прыбаўлення ў вазе неабходна 2,5–3 кілаграмы бульбы, а гэта 240–270 рублёў супраць 110–130 рублёў за кілаграм прапануемых кармоў, г. зн., у два разы танней.

Кантракт з Санкт–Пецярбургам забяспечвае пастаўку ў раён 300 тон высакаякасных кармоў з амерыканскай пшаніцы.

*Ігар ВЕЙС, намеснік дырэктара Вілейскага плодаагародніннага прадпрыемства*
*8–01771–56733, 56934*

*КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА*

# Дапамажыце адшукаць

МАЛАДЗЕЧНА. Аддзел унутраных спраў на транспарце ўстанаўлівае асобу мужчыны, якога смяротна траўміраваў 9 лютага ў 18 гадзін 50 хвілін на станцыі Уша прыгарадны цягнік “Маладзечна–Мінск”. Яго прыкметы: на выгляд 28–30 год, рост 180 см, хударлявага целаскладу, валасы прамыя, цёмныя, бровы прамыя, нос шырокі. Асаблівая прыкмета: на галёнцы правай нагі ёсць шрам ад апёку памерам 15х7 см. Быў апрануты: світэр шарсцяны чорнага колеру, джынсы цёмна–сіняга колеру, спартыўны касцюм салатнага колеру з чорнымі ўстаўкамі, чаравікі чорныя, вязаная чорная шапка.

Просім грамадзян, якім што–небудзь вядома пра гэтага чалавека, паведаміць у Маладзечанскі АУС на транспарце па тэл. 42357, 42416, 70986 або ў бліжэйшы аддзел міліцыі па тэл. 02.

НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

# Пытаецца люты, ці добра абуты

**18 лютага – Агата**. Калі надаралася ў гэты дзень цяпло, то больш ужо вялікіх халадоў не прадбачылася.

**23 лютага – Прохар**.

**24 лютага – Улас**. Прыйшоў Прохар ды Улас – скора вясна ў нас.

Ранні вылет пчол – прыкмета надыходу ранняй і цёплай вясны.

Цячэ шмат соку з бярозы – лета будзе дажджлівае. Бяроза раней за вольху лісце выкінула – лета будзе сонечнае, а калі вольха раней за бярозу распусцілася – то лета будзе халоднае.

Калі распусціцца ясень раней, чым дуб, лета трэба чакаць сухога і цёплага.

**Народная мудрасць**

Люты наробіць плюты. Люты, ой, люты, ці добра ногі абуты? Хто ўзімку добра жывёлу даглядае, той увесну за хвост не падымае. Зіма ўцякае цёмнымі начамі. Калі на Стрэчанне певень пад страхою нап'ецца, то на Юр'я вол травы наесца.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# Не фатаграфуй – наклічаш бяды

Ціхі вераснёўскі ранак. Ледзь хвалюецца Нарач. Узяў напракат лодку і вяслую ля берага насупраць санаторыя "Нарач". Сонца выплыла з–за хмар і яшчэ больш прыгожым зрабіла наваколле.

Пры мне фотаапарат. Якраз падплывае супрацоўнік раённага вузла сувязі К., які зрабіў праверку работы мясцовых сувязістаў, а потым вырашыў бавіць час на варце ў лодцы. Убачыў фотаапарат.

– Сфатаграфуй мяне.

– Не буду, як ні прасі, – катэгарычна адказваю.

К. здзівіўся, бо адзін аднаго добра ведаем.

– Што за прычына? Мо, плёнка скончылася?

– З фотаапаратам усё ў парадку, але ён не робіць здымкаў, калі мужчына адзін, без жанчыны.

– Дзе ж узяць жанчыну? Жонка дома.

Галавой паказваю на бераг, дзе стаіць шмат маладзіц, мабыць, кожная марыць зрабіць лодачную прагулку, ды яшчэ і з прыгожым лодачнікам.

– А ці згодзіцца якая сесці ў лодку?

– Гэта ўжо ад тваіх здольнасцяў залежыць.

Мінула некалькі хвілін. Мой знаёмы ўжо не адзін, зачаравана глядзіць на незнаёмку. Падплываюць да мяне. Я ж не драмаў і некалькі разоў шчоўкнуў фотаапаратам. Жанчына папраўляе касу, а вясляр усміхаецца ад задавальнення.

Калі лодка К. спынілася побач, і пасажыры сядзелі насупленыя, зрабіў адзін здымак і аб'явіў, што скончылася плёнка (плёнка ў мяне была, але не хацелася траціць на нямую сцэну). Калі мужчына з жанчынай адплывалі ад мяне, я яшчэ некалькі разоў пстрыкнуў затворам свайго "Зеніта".

Зробленыя здымкі ўручыў К., пры гэтым пацікавіўся, ці ведае, каму і куды пасылаць.

– Ведаю, добра ведаю.

Праз тыдзень–другі пачуў на раённым вузле сувязі, што жонка аднаго супрацоўніка бегала па кабінетах і цікавілася, ці не з'явілася новая сувязістка.

К. прызнаўся мне, што фотаздымкі не сцяміў пакласці на рабоце ў сейф, а насіў у кішэні курткі. У нядзелю жонка, збіраючыся на кірмаш, рабіла рэвізію кішэняў – патрэбныя былі грошы. Муж спаў. Патрапіла на фотаздымкі і імі моцна тыцнула яму пад нос. Той расплюшчыў вочы і ўбачыў раззлаваную, бы львіца, жонку. К. не прызнаўся, якія падзеі разгортваліся далей.

Я вазьмі ды скажы:

– У Мінску спадзяюцца на здымкі, а ты так неабдумана сябе паводзіш. Не бядуй, захаваліся негатывы, зробім новыя карткі.

– Ты здурнеў, большай бяды хочаш наклікаць. Аддай мне негатывы, я сам іх знішчу.

Пасля такога выпадку мой "Зеніт" шчоўкаў толькі тады, калі ў аб'ектыў траплялі муж з жонкай. Нізавошта не хацеў здымаць, калі мужчына стаяў побач не са сваёй кабетай.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ПРОСТА АНЕКДОТ

Тыповая размова двух адэсітаў у трамваі.

– Вы не скажаце, калі мне трэба выйсці, каб трапіць на Дэрыбасаўскую вуліцу?

– Сачыце за мной і выходзьце на адзін прыпынак раней.

ВЕРСІІ

# Мінскі слесар зрывае запуск кітайскай ракеты-носьбіта

На гэтыя выхадныя з Мінска прыязджаў сябар, які служыць у міліцыі. Ён і расказаў дзіўную гісторыю. Колькі месяцаў таму ў Кітаі на два тыдні адклалі запуск ракеты–носьбіта. Справа ў тым, што спадарожнік, які павінен быў быць выведзены на арбіту, быў не гатовы. Не хапала камплектуючых, якія не паставіў адзін з мінскіх заводаў.

Нейкі разумнік выцягваў платы, якія ўтрымліваюць золата, са шматфункцыянальных станкоў ЛПУ. Такім чынам, завод тэхнічна не мог выканаць заказ. І толькі калі ў пастаўленую пастку трапіў гэты "разумнік", завод змог вырабіць камплектуючыя да спадарожніка.

Вось як радавы слесар, якому, мабыць, не хапала на бутэльку, сарваў запуск касмічнай ракеты ў далёкім Кітаі.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ

# Адчуванні абарыгена

Далёкі Усход, сопкі, верталёт геолагавыведкі. Два геолагі і пілот унутры, і апаратуры – на кошт самога верталёта. Раптам ламаецца компас. Мясцовасць зверху аднолькавая, дзікунская, воблачнасць нізкая, дзе поўнач–поўдзень (тым больш база) – невядома аб–са–лют–на. Але некуды трэба ляцець. На шчасце, неўзабаве ўнізе заўважаецца мужык абарыгеннага выгляду з вінтоўкай.

Верталёт падлятае, завісае над ім. Мужыку крычаць нешта пра каардынаты (дзе які бок). Той, натуральна, не чуе, бо вінты шумяць. Спускаюцца трохі ніжэй – абарыген ізноў не чуе. Тады скідаюць вяровачную лесвіцу і робяць знак, каб мужык падымаўся наверх. Той залазіць і перакідвае ўжо нагу, каб ускараскацца ў салон, як адзін з геолагаў бачыць, што цяжкі кірзавы бот рыхтуецца раздавіць нейкі супердарагі і звышнеабходны прыбор.

На лямант нават з блізкай адлегласці мужык не рэагуе, таму прымаецца інтуітыўнае рашэнне: "госць" атрымлівае кулаком у сківаіцу, з прычыны чаго падае ў мох з вышыні паўтара дзесятка метраў.

Затым верталёт падняў лесвіцу і хуценька знік у небе – не запрашаць жа мужыка яшчэ раз у салон. Цяжка цяпер сказаць, якім чынам геолагі ўсё ж дабраліся да базы – і не галоўнае гэта. Цікава было б даведацца пра пачуцці таго абарыгена–паляўнічага...

*Падрыхтаваў Сямён РАБІНОВІЧ.*

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

Не дораг абед, а дораг прывет

## Салата па-аўстрыйску

***6 яек, 1 цыбуліна, 1 бляшанка рыбных кансерваў у масле, 100 г цвёрдага сыру, масла, маянэз.***

Накладваем слаямі:
- надзертыя на тарцы бялкі (1–ы слой);
- надзерты сыр (2–і);
- рыба (алей зліць, разламаць рыбу на кавалачкі – 3–і). Гэты слой заліць маянэзам;
- цыбуля (4–ы);
- масла (5–ы) – масла трэба надзерці на тарцы;
- надзертыя жаўткі (6–ы слой).

Яшчэ раз заліваем маянэзам. Добра, калі салата пастаіць з гадзіну, каб усе кампаненты сталі сакавітыя.

## Катлеты сечаныя

***Паўкілаграма*** не вельмі тлустай ***свініны*** рэжам невялікімі кубікамі. Парэзанае мяса кладзем у эмаліраваны посуд і дадаем ***2 вялікія лыжкі крухмалу, 3 яйкі і часнок*** (пажадана, цэлую галоўку дробна пасечанага).

Усё гэта перамешваем і ставім у халадзільнік на 2 гадзіны. Смажыць на алеі. Фарш накладваюць на патэльню вялікай лыжкай (як аладкі). Смажыць да гатоўнасці або тушыць 5–10 хвілін.

## Торт

***1 шклянка мукі, 1 шклянка цукру, 3 яйкі, 1/2 маленькай лыжкі соды пагасіць воцатам.***

Крэм: ***1 шакаладку або цукеркі распусціць з маслам.***

Усе кампаненты перамяшаць, спячы ў духоўцы. Гарачы торт раздзяліць на 3 часткі, змазаць варэннем і скласці разам. Зверху змазаць крэмам.

*Падрыхтавала Наталля БРОЎКА.*

ГАРАСКОП 21 – 27 ЛЮТАГА

**Авен (21.03–20.04)**
У гэты перыяд вы будзеце поўныя энергіі і зможаце лёгка прасунуцца ў кар'еры. Вельмі добры час для вайскоўцаў.

**Цялец (21.04–21.05)**
Перыяд звязаны з хваравітым станам, які можа працягвацца доўга і нават перайсці ў хранічныя формы. Магчымае спыненне сяброўства, праблемы ў сям'і.

**Блізняты (22.05–21.06)**
Магчыма, адкрыюцца вашы карты, і праціўнік убачыць, што вы нячыста гуляеце. Узнікненне доўгай і бесперспектыўнай варожасці. У блізкім наваколлі – інтрыгі супраць вас. Пазбягайце зносінаў з прадстаўнікамі вогненных знакаў, асабліва Стральца.

**Рак (22.06–23.07)**
Вы будзеце загадкавыя і абсалютна недаступныя для разумення. У гэтыя дні добра планаваць новыя праекты і заводзіць знаёмствы: ніхто і ніколі (акрамя вас) не зможа імі пакарыстацца. Фінансавыя цяжкасці.

**Леў (24.07–23.08)**
Вы можаце атрымаць усё, што пажадаеце. Загадвайце самыя смелыя пажаданні. Магчымыя паездкі, але дарога не будзе ўдалая. Будзьце асцярожней з тэхнікай, асабліва з электрапрыборамі.

**Дзева (24.08–23.09)**
Перыяд творчай актыўнасці і вельмі добрых узаемаадносінаў у сям'і. Магчымае атрыманне паведамлення або прыезд даўніх сяброў.

**Шалі (24.09–23.10)**
Час неспрыяльны ні для кар'еры, ні для кахання. У той жа час, здабыткі гэтага перыяду або інвесціраванне грошай у сумесныя праекты будуць вельмі дарэчы. Добра таксама працаваць з інфармацыяй, а не з людзьмі.

**Скарпіён (24.10–22.11)**
Фінансавая дапамога збоку, поспехі ў справах. Хаця вялікая колькасць дробных праблем будзе "блытацца пад нагамі", рашэнне глабальных пытанняў будзе давацца лёгка. З'яўленне на гарызонце магутнага ворага.

**Стралец (23.11–21.12)**
Перыяд, калі трэба будзе больш перапрацоўваць старое, чым ствараць новае. Магчымая сварка на рабоце. Пастарайцеся стрымліваць сябе.

**Казярог (22.12–20.01)**
Дні падманутых надзей. Вы не атрымаеце тое, што з такім нецярпеннем чакалі. Але прыродная стойкасць дапаможа справіцца з расчараваннем, і, магчыма, вы рэзка памяняеце курс. Добры перыяд для рамантычнай прыгоды.

**Вадалей (21.01–19.02)**
Выкрыццё, скандал, разрыванне стасункаў. У бізнесе – добрыя перспектывы. Аднак унутраная скіраванасць на авантуру можа прывесці да таго, што вы лёгка заблытаецеся ў трох соснах. Небяспека ранення.

**Рыбы (20.02–20.03)**
Амаль увесь перыяд вы будзеце знаходзіцца ў добрым і спакойным настроі. Аднак ёсць небяспека пападання ў псіхічную залежнасць або "крутых разборак" з крэдыторамі.

КРЫЖАВАНКА

*ад Ірыны Сахацкай*

**Па гарызанталях:** 5. Сын брата ці сястры. 6. Падман. 7. Мужчынскае імя. 10. Зямельная мера. 14. Круглая невысокая пасудзіна для піцця. 17. Вялікі раскошны будынак. 18. Вясенні месяц. 19. Непрыемнае пачуццё. 21. Чорная мазь для абутку. 22. Горад у Францыі. 23. Пятля. 24. Жаночае імя. 27. Дружалюбныя адносіны, згода. 29. Абрэзаны кавалак скуры. 30. Трапічнае дрэва. 31. Афарбоўка. 33. Расліна з вялікімі чырвонымі кветкамі. 36. Вяроўка, каб паганяць жывёлу. 37. Хімічны элемент, газ без колеру і паху. 38. Пісьменнік, публіцыст.

**Па вертыкалях:** 1. Месца, запэцканае чым–небудзь. 2. Прамежак рабочага часу, па заканчэнні якога работнікі змяняюцца. 3. Памяшканне для стаянкі і рамонту самалётаў. 4. Тэрыторыя Расіі за Уралам. 8. Апісанне жыцця. 9. Частка расліны. 11. Марка аўтамабіля. 12. Жыллё. 13. Ваеннаслужачы. 15. Вокамгненны разрад вялікай колькасці атмасфернай электрычнасці ў паветры. 16. Пасудзіна на ножцы (для алкагольных напояў). 20. Папугай. 21. Кастрыраваны бык. 25. Часопісы, газеты і да т. п. 26. Цяжар чаго–небудзь, каго–небудзь. 28. Адзін з трох мушкецёраў з рамана А. Дзюма. 32. Дванаццаць. 33. Член рэлігійнага аб'яднання. 34. Самец качкі. 35. Выбуховае рэчыва.

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №6*

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | С | | К | | Н | | Р | У | Р |
| Г | Р | А | К | | А | | А | К | У | Л | А |
| А | | Ж | А | Р | Н | А | В | А | Л | | Г |
| | Л | І | Т | В | А | | І | Л | І | Ё | Н |
| О | | Р | | П | Р | А | Л | Е | С | К | А |
| П | М | А | Т | С | Э | | | | | | |
| | | | | | Й | А | В | А | Р | А | К |
| | | | | | К | | І | М | | Ж | |
| | | | | | А | Д | Н | А | Г | У | |
| | | | | | | А | І | Р | | Р | |

